# ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

## *Пульс дня*

### НАТО в роли миротворца?

**Сопредседатели координационного комитета международной конференции по бывшей Югославии Лорд Оуэн и Турвалд Столтенберг встретились вчера в Неаполе с главнокомандующим Объединенными вооруженными силами НАТО в Европе Джоном Шаликашвили.**

Участники встречи обсудили роль североатлантического альянса в осуществлении мирного плана Вэнса—Оуэна.

### Аскар Акаев поехал учиться демократии

**В Вашингтон с визитом прибыл президент Кыргызстана Аскар Акаев.**

По приглашению комитета по правам человека Национальной академии наук США он примет участие в сахаровских чтениях, а также встретится с представителями администрации и конгресса США, руководителями международного валютного фонда и Всемирного банка. Ожидается, что президент Кыргызстана будет принят в Белом доме президентом США Биллом Клинтоном.

### В Ольстере прошли выборы

**Какова расстановка политических сил в Северной Ирландии, насколько реальны шансы на возобновление межпартийных переговоров о создании автономной администрации в этой британской провинции, прерванных осенью этого года?**

Об этом можно будет судить по результатам выборов в окружные муниципальные советы, которые проводились вчера в Ольстере.

### ООП за прямой диалог

**За придание новых импульсов процессу мирного урегулирования на Ближнем Востоке высказались на состоявшейся в Вене совместной пресс-конференции федеральный канцлер Австрии Франц Враницкий и председатель исполкома Организации Освобождения Палестины (ООП) Ясир Арафат.**

Палестинский руководитель подчеркнул готовность к ведению прямого диалога с официальными представителями Израиля.

### В Китае социализма стало меньше

**Китай почти полностью отказался от талонов на приобретение в государственных магазинах зерна и масла по низкой цене, которые были введены в стране еще в 1955 году и стали символом распределительной системы социализма.**

Как сообщает газета "Чжунго жибао", в 27 провинциях и автономных районах КНР полностью снят государственный контроль и отпущены цены на хлеб и растительное масло, наиболее потребляемые среди китайцев продукты питания.

### США признают правительство Анголы

**Соединенные Штаты приняли решение признать правительство Анголы и установить с этой африканской страной дипломатические отношения.**

Как сообщила газета "Нью-Йорк таймс" со ссылкой на официальных лиц администрации, Белый дом пошел на этот шаг по двум главным причинам. Во-первых, президент Жозе Эдуарду Душ Сантуш одержал победу в ходе проведенных там под наблюдением ООН общенациональных выборов; во-вторых, ангольское руководство одобрило на прошлой неделе предложенный США, Россией, Португалией и ООН план мирного урегулирования гражданской войны.

### Датчане изменили свое мнение

**Население Дании высказалось за одобрение Маастрихтских соглашений о создании европейских валютно-экономического и политического союзов.**

Таков главный итог повторного референдума, прошедшего в этой скандинавской стране.

### Своей валютой сыт не будешь...

**Введение собственной валюты осложнило и без того нелегкую экономическую и социальную обстановку в Кыргызской Республике.**

Вчера стало известно, что Казахстан приостановил поставки зерна в Кыргызстан и начаты межправительственные переговоры по урегулированию этой проблемы. Это все происходит на фоне жесткой реакции на введение сома со стороны Узбекистана. Решением правительства этой республики снижены поставки газа на юг Кыргызстана, отключена телефонная связь между двумя государствами.

### Сандинисты и контрас поменялись местами

**Правительство Никарагуа временно отменило действие некоторых конституционных гарантий в ряде районов на севере страны и обнародовало другие меры, направленные на пресечение вооруженной деятельности так называемых новых контрас и бывших солдат сандинистской народной армии, восставших против нынешних властей.**

Президент республики Виолета Барриос де Чаморро издала декрет, в соответствии с которым полиции дано право производить обыски и аресты без санкции прокурора.

## *Беларуская Амерыка: людзі і лёсы*

### Вітаўт КІПЕЛЬ:

# II. "Час збіраць камяні"

**— Спадар Кіпель, для многіх нашых суродзічаў на бацькаўшчыне будзе навіной, што ў Амерыцы існуе і паспяхова дзейнічае БІНІМ — Беларускі інстытут навукі і мастацтва, старшынёй якога Вы з'яўляецеся. Давайце раскажам аб гэтым больш падрабязна.**

— Калі ласка. Беларускі інстытут навукі і мастацтва — гэта навукова-даследчая ўстанова, якая ад самага пачатку паставіла сабе за мэту — даследаваць галіны беларусазнаўства, якія альбо не даследаваліся на Беларусі, альбо фальшывіліся. Ідэя заснавання інстытута паўстала ў Нямеччыне ў канцы 40-х гадоў. Але ў Нямеччыне мы сядзелі на чамаданах і да справы не дайшло. Да гэтай задумы мы вярнуліся ў 1950 — 1951 гадах у Нью-Йорку і заснавалі арганізацыю, членам якой мог быць кожны, хто працаваў у галіне даследавання, — беларусазнаўцы, уключна з мастакамі і пісьменнікамі. Ядро інстытута склалі такія даследчыкі, як Леў Акіншэвіч, Антон Адамовіч, Янка Ліманоўскі, якія займаліся навуковай дзейнасцю яшчэ ў Беларусі. Яны звярнуліся да іншых навукоўцаў у свеце, аформілі патрэбныя паперы і ў штаце Нью-Йорк зарэгістравалі БІНІМ як беларускую арганізацыю, якая займаецца навуковымі даследаваннямі, звязанымі з Беларуссю. Сталі выдаваць часопіс "Запісы", іншыя друкі. За першыя пяць гадоў у інстытут уступіла каля 150 чалавек — практычна з усіх кантынентаў. Неўзабаве арганізацыя пачала прымаць навукоўцаў небеларускага паходжання, якія займаліся вывучэннем беларускіх праблем. Сябрам інстытута стаў доктар Ліхтэн. Ён яўрэй, займаўся беларускай гісторыяй. Дарэчы, яшчэ ў час нямецкай акупацыі ў 1944 годзе ён напісаў першую ў Амерыцы працу пра Беларусь: "Стан палітычны на Беларусі". Праца гэта малавядомая, але трэба сказаць, што ён вельмі аб'ектыўна пасвятляў, што рабілася на Беларусі пры немцах. Пазней сябрамі інстытута сталі польскі даследчык Зымер, іншыя вучоныя, у прыватнасці наш вялікі сябра Томас Бэрд.

У 50 — 60-х гадах арганізацыя аб'ядноўвала пераважна тыя інтэлектуальныя сілы, якія атрымалі адукацыю на бацькаўшчыне. Пачынаючы з 70-х гадоў сітуацыя змянілася. Да нас прыйшлі маладзейшыя сілы, якія выраслі тут на эміграцыі і атрымалі ці то амерыканскую, ці то нямецкую адукацыю. Сёння каля 40 чалавек — сяброў нашага інстытута — маюць дыпломы амерыканскіх універсітэтаў.

**— Спадар Кіпель, а хто фінансуе дзейнасць БІНІМа?**

— Фінансы нашы асноўваюцца на сяброўскіх складках і ахвяраваннях. Апрача гэтага, нам дае датацыі фундацыя Крэчэўскага.

**— Гэтых сродкаў хапае не толькі на фінансаванне даследаванняў, але і на выдавецкую дзейнасць?**

— Так. Хоць практычна ніякага фінансавання даследаванняў у нас няма. Усё робіцца на грамадскіх пачатках. А што тычыцца выдавецкай дзейнасці, то гэта найважнейшы напрамак нашай працы. Мы імкнёмся не толькі выдаваць беларускія кнігі, але і сочым за тым, каб яны траплялі ў амерыканскія бібліятэкі. Мы маем абмен з 64 універсітэцкімі бібліятэкамі Амерыкі. Яны рэгулярна падпісваюцца на "Запісы" і ўсе выданні інстытута. У гэтых бібліятэках ёсць беларускія калекцыі. Значыць, студэнты могуць пісаць семінарскія і магістарскія тэзы на беларускія тэмы. У 60 — 80-х гадах мы выдалі каля 20 каталогаў беларускіх кніг, якія можна набыць праз інстытут. Сярод іх былі кнігі і з БССР. Калі ў Мінску выходзіла нешта вартаснае, мы прапагандавалі гэтае выданне. На кнігах з Беларусі мы не зараблялі, але стараліся, каб яны трапілі туды, дзе ў іх ёсць патрэба.

**— Такім чынам камплектаваліся бібліятэчныя фонды...**

— Безумоўна. Гэтай працай мы вельмі задаволены. Бо ёсць ужо дзесяткі універсітэтаў, а сярод іх такія, як Індыянскі і Стэнфардскі, якім мы дапамагалі напачатку, а цяпер яны самастойна працягваюць гэтую справу. Прыкладам, я быў вельмі здзіўлены, калі ў Стэнфардскім універсітэце, куды мы прыехалі з маёй суджанкай Зорай, каб зрабіць даклад "Беларускія калекцыі ў амерыканскіх бібліятэках", убачыў амаль усю маладнякоўскую бібліятэку. "Адкуль яны ў вас?" — пытаюся. Аказваецца, з Паўднёвай Амерыкі. Гэта прыватная бібліятэка нашага земляка, які жыў там і з 20-х гадоў сачыў за беларускімі выданнямі і збіраў іх. А потым ці то сам, ці то дзеці вырашылі гэты унікальны збор прадаць, і універсітэт з задавальненнем набыў яго. Там цяпер багацейшая калекцыя.

**— Добрая калекцыя атрымаецца таксама, калі сабраць усё, што выдаў за 40 гадоў ваш інстытут...**

— Мяркуйце самі. Увесь гэты час выдаваліся "Запісы". Праўда, не заўжды рэгулярна. Але цяпер мы паправімся. Толькі што выйшаў 20-ы нумар. Наступны 21-ы прысвечаны Максіму Багдановічу. Зараз ён знаходзіцца ў друку. У 50-х гадах мы выдавалі літаратурны часопіс "Конадні". Выйшла сем нумароў.

**— А чаму ён спыніў сваё існаванне?**

— І фінансава было цяжка, і тэхнічна не хапала сіл цягнуць адразу два выданні. У той час выдаваўся таксама "Абежнік" інстытута. Мы пачалі друкаваць манаграфічныя працы. Першым выдалі даследаванне Міколы Куліковіча "Беларуская музыка" /1-я частка/. Пасля з'явіліся іншыя, але ўсе яны былі прысвечаны ў асноўным скарыназнаўству.

**— А чаму менавіта скарыназнаўству?**

— Таму што доктар Вітаўт Тумаш, які ад 1956 года быў старшынёй інстытута, вельмі цікавіўся Скарынам і збіраў усё, што мела дачыненне да слаўнага беларускага першадрукара. Публічная бібліятэка ў Нью-Йорку пагадзілася набываць усё, што ён знойдзе пра Ф. Скарыну ў каталогах. Гэта было вельмі плённае супрацоўніцтва.

**— Адным з лепшых вашых выданняў з'яўляецца серыя "Беларускія паэты і пісьменнікі".**

— Пачаў гэтую серыю зборнік Наталлі Арсенневай, пасля мы выпусцілі "Выбранае" Алеся Салаўя, Аляксандры Саковіч, Міхася Кавыля. Цяпер на варштаце кніга Міколы Целеша і кніга Лявона Крывічаніна "Дзённік Чужанінава". Гэта зусім невядомыя беларускаму чытачу творы... Крывічанін — псеўданім Леаніда Свэна, які ў 1928 — 1929 гадах у Беларусі выдаў пару зборнічкаў прозы. Дарэчы, адзін з іх мне падараваў Барыс Сачанка, калі я быў у Мінску.

**— Інстытут выдае таксама серыю бібліяграфічных прац...**

— Так, выйшлі з друку тамы, прысвечаныя Купалу і Коласу, Скарыніяне, беларускай незалежнасці. Падрыхтавана бібліяграфія "М. Багдановіч на Захадзе". Заканчваецца праца над томам "Беларусістыка ў замежных мовах". Доктар Янка Запруднік сабраў выказванні больш чым 250 пісьменнікаў пра беларускую мову. Яго кніга таксама ўбачыць свет у нашым інстытуце.

**— Спадар Кіпель, нельга абмінуць і такую дзялянку дзейнасці вашага інстытута, як арганізацыя і ўдзел у міжнародных навуковых канферэнцыях.**

— Тут шмат можна расказаць. Мы заўсёды стараліся паслаць свайго прадстаўніка на канферэнцыю, дзе можна было падняць беларускія праблемы. Так пашыраліся нашы кантакты з навуковым светам. Тым больш што сярод удзельнікаў канферэнцый у Амерыцы, дый наогул на Захадзе, да сярэдзіны 70-х гадоў практычна адсутнічалі прадстаўнікі Беларусі. З Расіі і Украіны былі, а з Беларусі — нікога.

**— І вы ў пэўнай ступені выконвалі функцыю Акадэміі Беларусі?**

— Так, мы добраахвотна выконвалі гэтую ролю. Мы ведалі, што на Беларусі ёсць таленавітыя вучоныя, але яны не могуць прыехаць на Захад. Памятаю, у Калумбус універсітэце, штат Агаё, была канферэнцыя амерыканскай асацыяцыі славістаў. Былі прадстаўнікі з Расіі, а нашых — нікога. Я пытаюся: чыму няма беларусаў? А расійцы мне адказваюць: "Ваши товарищи не интересуются!" Не магу не сказаць яшчэ аб адным кірунку нашай дзейнасці. У Амерыцы зараз працуе 14 бібліятэкараў беларускага паходжання ў бібліятэках розных штатаў. Яны хацелі нават стварыць сваю падсекцыю ў нашым інстытуце, але замала людзей. Дык вось, там, дзе працуе бібліятэкар-беларус, мы ствараем з яго дапамогай не толькі інфармацыйную, але і даследчую калекцыю. Праз увесь час мы стараліся зрабіць тое, што маглі. Таму што Беларусь доўгі час была штучна выключана з міжнароднага навуковага жыцця.

**— Спадар Кіпель, а ў якім стане сёння вашы адносіны з навуковымі ўстановамі Беларусі?**

— Адносіны наладжваюцца. І нядрэнныя. І з Акадэміяй навук Беларусі, і з цэнтрам імя Ф. Скарыны. У Акадэміі ёсць сектар вывучэння эміграцыі, які ўзначальвае доктар Галіна Сяргеева. У мяне такое ўражанне, што яны робяць салідную працу. У нас вельмі добрыя кантакты з імі. Я нават падрыхтаваў для іх выдання спецыяльны артыкул. Спадзяюся, што будуць большыя кантакты і са Скарынінскім цэнтрам. Неўзабаве мы перадаём ім цэлую калекцыю англамоўнай літаратуры пра эміграцыю. Мы прывязём яе як падарунак, каб гэтыя матэрыялы былі даступны беларускім даследчыкам і вучоным.

Эміграцыя — гэта раскідванне камянёў. Ведаеце, гэтых камянёў столькі панакідалі і так далёка, што, каб сабраць іх, спатрэбіцца не адно пакаленне. А зрабіць гэта трэба. На эміграцыі мы робім тое, што не маглі вы рабіць на бацькаўшчыне. Усе 40 гадоў мы жылі ўсведамленнем, што наша праца будзе спрыяць духоўнаму адраджэнню Беларусі. Дзеля гэтага мы тут працуем і цяпер!

## *Гримасы рынка*

# Таможня дает "добро",

## а что думает об этой проблеме правительство?

Ян КОРОБЕЙНИКОВ

**Наши серые "Жигули" уверенно катили по шоссе, своевременно объезжая выемки и колдобины. Из колонок вырывался стон модной певицы, теплый воздух делал салон уютным и комфортным, если учесть, что за окнами занялась слепая пурга. Но никто из нас не обращал внимания на эти мелкие прелести жизни, мысли сходились к одной точке. Через десяток километров нас ждал таможенный пост, грозивший неприятностями и конфискацией товара, которым был забит багажник и половина салона.**

А для волнения была причина — этого самого товара мы прихватили аж на целый миллион. Его конфискация грозила поставить наше малое предприятие на грань банкротства: кредиты на закупку товара, выпрошенные в банке с большим трудом под огромные проценты, погашать было бы нечем. Тем более что груз уже ждала организация, которой мы обязались его поставить из соседней державы.

За несколько десятков метров до поста на обочине припарковались два новеньких "Опеля". Мы пристроились за ними. Директор вышел на разведку. Через несколько минут он вернулся:

— Ребята на "Опелях" отлично затоварены, хотят "договориться" с таможней. Подождем, если у них получится, проедем и мы.

Время шло, мы ждали результатов переговоров. Но вот вернулись владельцы иномарок. Резко рванув с места, их машины круто развернулись и помчались в обратном направлении.

Мы решили думать. В голову лезло всякое, вплоть до того, что лучше взять мешки и обойти таможню по полю, кустами. Чтобы убедиться в утопичности такой идеи, мне пришлось спуститься в кювет: еле выбрался из вязкой, смешанной с мокрым снегом глины.

Освежившись на воздухе, моя голова родила нестандартную идею. Через пяток минут, развернувшись, мы уже мчались в обратную сторону до поворота на ближайшую железнодорожную станцию, чтобы попробовать загрузить товар в электричку и отправить его в Беларусь. Теплилась надежда, что в захолустье не напоремся на милицейский патруль. Но оказалось, что бояться следовало не блюстителей порядка, а бездорожья. В нескольких сотнях метров мимо нас проносились поезда, а мы пытались вынести из лужи безнадежно забуксовавшие "Жигули". Отчаяние сменялось досадой и наоборот.

На свой страх и риск решили двигаться в сторону другого таможенного поста, где, как мы полагали, будет потише и все-таки можно будет договориться.

После долгих блужданий по незнакомым дорогам подъехали к самой границе. Кроме нас здесь уже находился молодой чеченец, перегонявший новые "Жигули" через Беларусь в Прибалтику.

Директор пошел "договариваться". Когда сумма была установлена, таможня дала "добро". Недоумевающий чеченец не мог понять, как мы беспрепятственно проезжаем, а он со всеми надлежащими документами остается на границе. Наш водитель посоветовал ему дать взятку. Уже на белорусской границе он нас догнал. Деньги сделали свое дело. Таможенники не только закрыли глаза на наш груз, но объяснили подробно путь следования и даже посоветовали, на каком километре объехать пост ГАИ. А перспектива дальнейшего сотрудничества с нами привела их в неописуемый восторг.

❑

Не следует удивляться, когда узнаешь, что товар, необходимый республике, вывозится, а ввозится все что угодно, начиная от оружия и заканчивая наркотиками. Причем делается это с огромным размахом. Аппетиты растут и у бизнесменов, и у таможенников. Не стоит также хвататься за голову и в экстазе кричать о всеобщем воровстве и проклятых "кооператорах", которые разворовывают республику в то время, когда простому работяге много чего не хватает.

Давайте по порядку разберемся в причинах, которые приводят к такому положению вещей. Налицо абсурдность создавшейся ситуации. И не нужно глубоко копать, чтобы догадаться, кому это выгодно. Близорукость наших политиков и экономистов может вылиться в жесточайший кризис. Введение таможенных постов — серьезная преграда на пути естественных экономических связей между производителями и потребителями. Преступно рушить то, что складывалось десятилетиями. Не секрет, что наше народное хозяйство изначально ориентировано на привозное сырье. Республика либо не обладает компонентами, необходимыми для промышленного производства, либо их разработкой никто не занимается. Ставить заслон на пути продвижения отечественных товаров на рынки стран СНГ — значит, содействовать прекращению поставок необходимого сырья для их производства.

Непомерно высокие налоги привели к тому, что малый и средний бизнес обречен на крах. Занятие частным предпринимательством во многом сопряжено с прямым или косвенным обманом государства. Логику экономических преступлений понять несложно: если государство обдирает как липку предпринимателя, то почему предпринимателю не урвать у государства часть денег, которые честно заработаны и которые оно пытается экспроприировать путем драконовской налоговой политики. В конце концов все вышеописанное падает на обывателя грузом астрономических цен на жизненно необходимые товары.

Теперь только идиота можно успокоить фиксированными ценами на основные продукты питания. Более высокий уровень жизни в республике, чем в сопредельных государствах, — не что иное, как блеф и досужий вымысел политиков, пытающихся всеми силами удержаться у власти. Например, дороже, чем среднестатистическому россиянину, белорусу достается хлеб и сахар, цены на мясные изделия почти сравнялись.

Большую роль в этом играет и бестолковая таможенная политика. Для того, чтобы обеспечить беспрерывное производство, предпринимателю помимо затрат на закупку сырья за рубежом следует выплатить огромную таможенную пошлину тому государству СНГ, из которого оно вывозится, а затем, чтобы часть готовой продукции обменять на все то же сырье, необходимо выложить еще большую таможенную пошлину своему государству, а если это еще помножить на высокие налоги, то прибыли может не хватить даже на оплату труда рабочих. Отсюда и астрономические цены на товары. Любая взятка, оставленная на таможенном посту, будет несоизмеримо меньше, чем затраты на официальный вывоз.

Что ж, резонно возразят оппоненты, соседние государства от нас отгородились, а мы должны закрыть глаза на то, что республику разворовывают?

Во-первых, страну разворовывают не коммерсанты. Если они что-то вывозят из республики, то для нормального ведения бизнеса им приходится и что-то ввозить, а именно то, чего у нас нет. Главный закон рынка — спрос рождает предложение. Любому здравомыслящему бизнесмену всегда выгоднее сбывать плоды своего труда там, где они производятся, если, конечно, они пользуются спросом, ведь теперь только одни транспортные расходы съедают до половины прибыли. И не следует смешивать и ставить в один ряд предпринимателя с мешочником (от которого тоже, кстати, можно легко избавиться при правильной ценовой политике).

Бездарное руководство экономикой приводит к утечке интеллекта не только технического, но и технологического. Все больше коммерсантов сворачивают свой бизнес в республике и начинают вести дела в соседних государствах, где проводится более либеральная экономическая политика.

Можно кричать о суверенитете и национальном возрождении, закрыть границы и превратиться в Албанию образца трех-четырехлетней давности. Но следует констатировать, что бизнес — явление межнациональное, интеграция и космополитизм будут присущи ему всегда. Человека с пустым желудком и одетого в лохмотья меньше всего волнует национальная принадлежность. Поголовная люмпенизация чревата серьезными потрясениями в обществе. В истории нашего государства мы это проходили. Так стоит ли наступать на грабли в очередной раз?

**P.S.** Совсем недавно через пост "знакомых" таможенников мы провезли на грузовике партию товара, острый дефицит которого ощущается в республике больше года. Жаль, что их скоро сменили другие. Придется все начинать сначала.

**ОТ РЕДАКЦИИ.**

*По понятным причинам в начало этого текста вынесена не настоящая фамилия автора. Используя возможность не раскрывать источник информации, наш обозреватель попытался запечатлеть со слов предпринимателя так называемой новой волны, как проблемы таможни, защиты экономических интересов республики видятся "снизу" людьми, непосредственно и каждодневно сталкивающимися с применением на практике правительственных документов, касающихся ввоза и вывоза сырья и товаров.*

*Газетная хроника таможенных нарушений, оперирующая астрономическими цифрами, оказывает поддержку курсу официальной политики в этой области и создает образ врага, стремящегося растащить нашу и без того обедневшую республику. Однако не стоит ли прислушаться к мнению из другого "окопа"?*

# СВЕТ В ОКНЕ

ВЫПУСК 10 (56)

## *Былі*

### Такое позняе рэха...

Валерый ГАПЕЕЎ

Пятрусь памятаў сябе атэістам яшчэ з маленства. А непахісным змагаром з рэлігіяй, у якога часаліся і язык, і рукі, стаў адразу пасля першага піянерскага збору. Гальштук абавязваў! Праўда, імпэт яго барацьбы з народным дурманам часам ахалоджвалі матчыны матузы, а пазней — бацькавы дакоры:

— Што ты з маці здзекуешся? Хіба яе вера табе замінае? Дабра жадаеш? То і будзь ласкавы — не чапайся. І будзе дабро.

Абразы на куце ў рэшце рэшт так і засталіся, як Пятрусь ні пераконваў бацькоў зняць іх падчас вялікай падзеі — збіраўся жаніцца. А жонка з горада, з інтэлігентнай сям'і. Нават пагражаў — не прывязу, на што бацька адрэзаў:

— А і не вязі. Нам такая не трэба, каб нас саромелася.

Але Альбіна — так звалі будучую жонку — была, відаць, выхавана добра, на абразы залішне ўвагі не звярнула. І калі Пятрусь пачаў потым нешта мармытаць пра адсталасць сваіх бацькоў, размову не падтрымала.

Прайшло колькі год. Пятрусь з Альбінай жылі ў горадзе, наязджалі часам у вёску.

Неяк увесну яны дапамагалі бацькам сеяць гарод.

Маці не заўважыла іх, бо яны якраз адпачывалі за стажком залеташняга сена, падышла да ўзрыхленай грады з мяшэчкам нейкага насення і, тройчы перахрысціўшы граду, ціха мовіла:

— Радзі, Божа, на ўсіх долю.

— І на нашу долю таксама-а! — заблазнаваў Пятрусь ад стажка.

Яму было непрыемна, бо Альбіна за гэтыя гады нічога падобнага не бачыла і не чула. І зацягнуў ён гэтую недарэчнасць голасна, каб ператварыць матчыны словы ў жарт.

Але маці не адазвалася. Нават не павярнулася да іх, моўчкі нагнулася, торкала пальцамі ў пульхную зямлю.

На гэтую прыкрасць хутка Пятрусь забыўся.

А калі іх дачцэ Надзейцы споўнілася восем год, атрымалі яны шэсць сотак зямлі пад дачу. Пятрусь і не чакаў, што ў ім абудзіцца такі зухаваты земляроб. Усю восень ён шчыраваў на тым кавалку.

Увесну сеялі. Надвор'е спрыяла, дзень выдаўся бы на заказ. Хутка ўскапалі пад грады, разраўнялі, разрыхлілі. Альбіна ўзяла ў рукі папяровы мяшэчак, запытальна глянула на мужа.

— Ну, то... давай, садзі, — сказаў Пятрусь. І здалося, што сказаў не тое. Паціснуў плячыма. — Хай расце, — дадаў яшчэ.

Ён адчуваў, што не так нешта трэба сказаць, бо хвіліна ж гэтая асаблівая нейкая, урачыстая нават. Першы ж раз за сваё жыццё засяваюць яны сваю зямлю. І гэтым "хай" ён як абражае клопат свой і працу, і саму граду гэтую, мяккую, вільготную і цёплую. Быццам абыякава яму зараз — ці вырасце на ёй што, ці не.

Альбіна глянула на яго з лёгкім дакорам.

І раптам Пятрусь аж вытрашчыў вочы.

Альбіна, яго Альбіна няўмела, нязграбна, але так старанна... перахрысціла перад сабой тройчы зямлю і сказала:

— Радзі, Божа, на ўсіх долю!

Потым прысела, старанна сыпала зярняткі ў ямку, крышку прысыпала.

"Радзі, Божа, на ўсіх долю", — неспадзявана, як рэха, паўтарыў у думках уражаны Пятрусь. І адчуў незвычайную палёгку. Аднекуль, бы ад самой грады, прыйшло заспакаенне — цяпер усё зроблена як трэба.

Як калісьці рабіла маці.

## *Імгненне і вечнасць*



Ціхі поўдзень.

Фота Аляксанда БЕРАЗНЯКА.

## *Прыміце ў падарунак верш*

### Ёсць яшчэ надзея

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

**Дактарам Мінскага анкалагічнага дыспансера Кургановіч Ларысе Міхайлаўне, Хвідчэню Леаніду Віктаравічу, Памазкіну Уладзіміру Аляксандравічу, іншым добрым, шчырым урачам і сёстрам гэтай медыцынскай установы, якія праяўляюць выключную ўвагу да хворых, дапамагаюць ім пазбавіцца цяжкіх хвароб.**

Аўтар.

*Прайшлі гады, як мы паліты*
*Усе былі імжой рудой, —*
*А людзі ўсё ў час самавіты*
*Ідуць да вас з сваёй бядой.*

*У чэргах, цесных калідорах*
*Стаяць, каб трапіць на прыём.*
*Сярод гвардзейцаў-непакораў*
*І маладзейшых пазнаём.*

*Былы вось воін з-пад Нароўлі.*
*Сын пад руку яго вядзе,*
*А ён: "Кінь, сынку! Усё роўна*
*Не мінаваць бяды нідзе..."*

*Другі ўжо гаварыць не можа —*
*Пякучы нейкі ў горле боль,*
*Суседу кажа: "Хай дасць Божа*
*Мне перажыць і гэту золь..."*

*І як бы ні было тужліва —*
*Здзіўляешся ў святле надзей:*
*Якая мужнасць і цярплівасць*
*У нашых ёсць яшчэ людзей!*

*Не літасці чакаюць людзі —*
*Хоць кропельку надзеі ім,*
*Што горшага ў жыцці не будзе,*
*Чым атамы глытаць усім...*

*І дактары ўсё адчуваюць:*
*Ласкавы кідаюць пагляд,*
*Як апраменьваць пачынаюць*
*Старых і нават немаўлят.*

*І вось салдат, як з поля бою,*
*Дамоў вяртаецца жывы.*
*Расстацца з цяжкаю журбою*
*Дапамаглі ўжо многім вы.*

*Вам дзякуй за выздараўленне!*
*Вы аддаеце многа сіл,*
*Каб Беларусі адраджэнне*
*Не знала брацкіх больш магіл!*

Люты—сакавік 1993 г.

## *Настроение*

### Соловьиный сад

Лилия КАЗАЧЕНКО

Раньше здесь была пригородная деревня.

Ее снесли.

Остался сад...

С одной стороны его ласково обнимает река. С другой — прижимается шумная дорога, по которой проносятся троллейбусы, грузовики, легковушки. Спешат мимо озабоченные люди...

В эти дни в старом саду светло и радостно. В зеленую листву убрались деревья. Бело-розовым цветом закипел, запенился сад. Ожили полянки, поднялись свежие душистые травы.

В зарослях сада у реки поселились соловьи. На разные голоса переливают они свои песни. Кто ладней и чище вытянет? И каждая неповторима.

Войдешь в цветущий сад — и сразу забываешь повседневную суету. Что-то давнее личное светлой тенью мелькнет в сознании, легко коснется души. И унесет тебя в далекую пору детства. Пору, когда день казался годом, а год — вечностью. Когда даже самые маленькие радости вселяли в тебя счастливую и неистребимую детскую веру.

Зайдите в цветущий сад, он подарит вам радость...

Раздел ведет Юрий СЕКУНДА.

